# наша свабода

№74 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

14 ЛІСТАПАДА 2000 года
АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





## Хамства з зорачкамі на пагонах

12 лістапада пасля моладзёжнай акцыі «Пераменаў!» у Першамайскі РУУС г.Мінска былі дастаўленыя 16 непаўнагадовых затрыманых. Афармленнем пратаколаў аб адміністратыўных правапарушэннях займалася інспектар па справах непаўнагадовых лейтэнант міліцыі Барадзіна Святлана Георгіеўна. У прысутнасці бацькоў удзельнікаў акцыі і адваката Веры Страмкоўскай інспектар дазваляла сабе абразлівыя выразы ў адносінах да затрыманых, называючы іх «мудакамі», пагражала, што яна «сама асабіста прасочыць, як іх пакараюць у судзе». Бацькі затрыманага Сяргея Астапчука і Вера Страмкоўская заўважылі, што паводзіны інспектара выкліканыя алкагольным ап'яненнем, і напісалі скаргу на імя старшыні Першамайскага РУУС, у якой указалі на неправамоцныя дзеянні Барадзіной і прасілі правесці экспертызу на наяўнасць алкаголю. Яны патрабавалі правесці службовае разбіральніцтва і прыцягнуць інспектара да адказнасці. Заява была зарэгістраваная.

Маці затрыманага С.Астапчука (сама працавала 20 гадоў інспектарам па справах непаўнагадовых) выказала меркаванне, што такіх супрацоўнікаў міліцыі, як Барадзіна С.Г., нельга і блізка падпускаць да дзяцей. ■

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»**

## Лукашенко держится на русской разведке

**Андрей МАТЯШ**

Служба внешней разведки России, вопреки законам РФ, работает не только на Владимира Путина, но и на Александра Лукашенко: СВР регулярно передает ему аналитику, а также оперативные материалы. Сенсационное признание, прозвучавшее из уст самого А.Лукашенко, повергло в глубокий шок главу СВР генерал-лейтенанта Сергея Лебедева.

Подобные казусы в истории любой спецслужбы случаются обязательно, но происходит это очень редко и всегда по вине слишком болтливых партнеров... И вот новый скандал. Причем на этот раз оконфузилась Служба внешней разведки.

В четверг, 9 ноября, в Минск для встречи с Александром Лукашенко прилетел глава СВР генерал-лейтенант Сергей Лебедев. Точнее, даже не для встречи с президентом, а для беседы с коллегами из белорусской внешней разведки, структурно входящей в местный КГБ. Но Александр Григорьевич не мог упустить такой случай и пригласил генерала для краткой беседы. Как всегда, на протокольные пять минут в зал были допущены журналисты. И вот тут А.Лукашенко понесло. Ни с того ни с сего – обращаясь к прессе – он начал благодарить С.Лебедева за аналитические материалы, которые он постоянно получает от СВР. ▶

*Окончание на стр.3*



Мястэчка Парыж. Хата ўдзельніка Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў

## «Перамены» вулічных настрояў

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Вечаровая вулічная акцыя 12 лістапада, якую правяла кааліцыя маладзёжных палітычных арганізацыяў «Пераменаў!», была жорстка разагнаная міліцыяй. 109 чалавек трапілі за краты. Учора пачаліся суды над удзельнікамі акцыі.

Вулічнае шэсце моладзі ў нядзелю паказала, што нават пры мінімальнай колькасці ўдзельнікаў падобных мерапрыемстваў (а іх сабралася ад 500 да 1.000 чалавек) акцыя можа прайсці гучна, даць нейкі вынік і рэзананс у свеце.

Улады з усёй сур'ёзнасцю паставіліся да акцыі моладзі. Задоўга да яе пачатку можна было пабачыць вялікую колькасць міліцыянтаў і «людзей у цывільным» вакол месца збору дэманстрантаў. Цягнікі метро і тралейбусы перасталі прыпыняцца на прыпынку «Акадэмія навук», дзе ў 18.00 мусіла пачацца шэсце.

Арганізатары мерапрыемства, па іхніх словах, вырашылі не паўтараць нядаўніх памылак «дарослых» лідэраў дэмакратычнай апазіцыі і адмовіліся весці народ на плошчу Бангалор.

У 18.30 натоўп рынуўся па ходніках і першай палосе праспекта Францыска Скарыны ў бок плошчы Якуба Коласа. Над моладдзю лунаў адзінокі бел-чырвона-белы сцяг. Раз-пораз з натоўпа выляталі петарды-ракеты, якія салютам разрываліся ў небе, асвятляючы вечаровы праспект.

Перад самай плошчай Якуба Коласа шлях дэманстрантам перагарадзіў двайны кардон міліцыі са шчытамі. Трывожную атмасферу нагняталі міліцэйскія машыны, якія стаялі за кардонамі з уключанымі сірэнамі і равунамі.

На сутыкненне моладзь не пайшла і спынілася ў чаканні. Байцы АМАПа пачалі паляванне на дэманстрантаў. Актыўна выкарыстоўваліся гумовыя дубінкі. Спроба ўдзельнікаў акцыі разбегчыся праз двары аказалася няўдалай – там іх ужо чакалі міліцэйскія засады. Спецыяльна падагнаныя аўтобусы пачалі хутка напаўняцца.

Сёй-той паспрабаваў схавацца ў будынку радыётэхнічнага каледжа, але міліцыя павыцягвала іх і адтуль. Пад гарачую руку «сілаў правапарадку» трапілі і некалькі навучэнцаў гэтага самага каледжа. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

## Головокружение от российского газа

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

Похоже, планы российского «Газпрома» проложить через Беларусь, в обход Украины, новый газопровод в Европу становятся главной темой политики режима А.Лукашенко. По мнению правителя и его помощников, обнародованные намерения российского и трех европейских концернов качать газ через белорусскую территорию свидетельствуют о том, что в Европе признали правящий режим в Беларуси гарантом безопасности процесса куплипродажи российского газа. По словам помощника С.Посохова, этот план – награда Беларуси за ее стабильность и кара Украине не только за хищения российского газа на своей территории, но и прозападную, проамериканскую политику. В общем, нынешнее руководство Беларуси декларирует готовность сыграть свою партию в геополитической игре России с Европой. Себе оно отводит роль этакого мостика между ними. При этом, видимо, слабо осознавая или сознательно не понимая, что роль эта может стать дестабилизирующей в регионе, так как затрагивает интересы сопредельных государств. Как известно, Варшава и Киев заявили о своей солидарной позиции против строительства в обход Украины.

Безусловно, подписанный в Париже меморандум между «Газпромом» и *Gaz de France* способен в будущем оказать заметное влияние на многие сферы европейской политики. Но пока следует принимать во внимание хотя бы то, что у данного проекта нет еще даже технико-экономического обоснования. Представители официального Минска в своих рассуждениях на газовую тему все больше стали проявлять симптомы головокружения от своей значимости. Несмотря на то, что в развернувшихся дебатах сама Беларусь как-то нехотя упоминается. На пути из России в Европу проблемы с прокладкой газопровода могут возникнуть только с Польшей, где, к примеру, земельные участки, по которым планируется проложить трубу, находятся в частной собственности. Там крестьян не так просто будет «обломать». Как, к примеру, произошло в белорусском «Рассвете». Все более становится очевидным, что «газовая тема» окажет заметное влияние и на предстоящие в следующем году парламентские выборы в Польше. ▶

*Окончание на стр.5*

ТЭКСТЫ

АДАМ ГЛОБУС

ПАРК
АДЗІНОТА НА СТАДЫЕНЕ
СМЕРЦЬ – МУЖЧЫНА
СКРЫЖАВАННЕ
ДАМАВІКАМЕРОН
ТОЛЬКІ НЕ ГАВАРЫ МАЁЙ МАМЕ
КРУГЛЫ ГОД
КОЙДАНАВА
НОВЫ ДАМАВІКАМЕРОН
POST SCRIPTUM

**стар. 2**

Прэзентацыя новай кнігі пісьменніка, вядомага пад псеўданімам Адам Глобус, у літаратурным музеі М.Багдановіча



**стр. 7**

### Виртуальное воображение

Размышления Умберто Эко о книге и компьютерном творчестве



**стар. 6**

Інтэрв'ю намесніцы старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў – «Здзяйсняюцца запаветы Мураўёва-вешальніка»

### НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА






**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1100**

# Как усидеть на дубинках?

Александр ДУБРАВИН

Что, собственно, происходит в стране? Из-за чего весь шум? Из-за чего наши проблемы? Почему граждане Беларуси так страдают и мучаются? Почему голодают дети? Почему пропадают люди? Почему старики роются в помойках? Почему во всех сферах жизни застой и деградация? Почему не действуют законы? Почему растет преступность и взяточничество? Почему свирепствуют туберкулез и алкоголизм? Почему дискриминируется язык и культура белорусов? Почему катастрофически уменьшается народонаселение страны? Почему в государственных учереждениях торжествуют некомпетентность и хамство? Почему присвоенные государством вклады граждан в сберкассах до сих пор не возвращены владельцам? Почему на столбах и заборах красуется фашистская свастика? Почему людям затыкают рты, угрожают, запугивают, преследуют, оскорбляют, унижают, избивают?

Потому, что один человек, избранный когда-то очень давно главным чиновником страны, вообразил себя незаменимым и незаменяемым. Кто-то его в этом убедил. И теперь он всеми правдами и неправдами собирается держаться за свой мягкий стул, стоящий у массивного стола, в большой комнате жуткого здания с ужасной аурой на улице Карла Маркса. Понимаете, ему очень не хочется покидать нагретое место, и нас всеми силами убеждают войти в его неудобное положение. Хор холуев твердит о какой-то особенной его харизме, о некой исключительности этого господина, но мы-то все прекрасно понимаем, что без этого места он весит мало. Всего лишь пожилой усталый человек без определенной профессии с большими претензиями к окружающим. И даже если кое-что спрятано в банках Швейцарии, то это для детей и внуков, а не для себя. Его карьера началась и закончится грандиозным фиаско именно здесь. При справедливых выборах этому господину уже ничего хорошего не светит. Слабый человек в таких условиях будет цепляться за государственную мебель изо всех сил. Особенно если знает, что на следующий день после отставки о него вытрут ноги все бывшие соратники. И в первую очередь – самые преданные. В его среде ведь так принято. Он и сам так частенько делал.

Из истории известны случаи, когда масштаб места был по определению намного больше масштаба личности. Но все выяснялось, как правило, в моменты, когда с этим местом этой личности надо было расставаться. Великие люди (например, президент Франции генерал Де Голль) расставались со своим местом добровольно, величаво и благородно, почувствовав негативные настроения в народе. И потому очень скоро возвращались. Другие уходили в результате общественного давления, но соблюдая чувство собственного достоинства. Третьи питали надежды на демократичные выборы, но, проиграв, уходили без излишней суеты. Что бы мы ни говорили о Кебиче и о его временах, но надо отдать должное: масштаб личности Вячеслава Францевича был больше масштаба его места. Он расставался со своим положением спокойно, без истерики, слез и преступлений. Иначе оппозиционер Лукашенко просто исчез бы, как сегодня исчезают его политические оппоненты. Иначе не было бы речи о телевизионных дебатах в прямом эфире, которых так панически боится сегодня власть. Иначе все бизнесмены, которые осмелились поддерживать кандидата в президенты Лукашенко, сидели бы и по сей день на нарах. И так далее...

Цепляние за власть – опасный симптом. Огромное, жаркое, мясистое и жирное государственное место подавляет волю слабого индивидума, превращает его в полное ничтожество. Вместо привлекательной личности перед глазами наблюдателей возникает вдруг необъятное седалище. Симпатичный и приятный человек неожиданно обращается в трусливого и подлого маньяка у власти. Он приносит неисчислимые страдания людям, проливает невинную кровь, совращает других слабых людей, принуждает их к преступлениям, лжет, изворачивается, интригует, продает свою душу, честь, совесть и доброе имя. Нет подлости, на которую не пошел бы такой человек ради сохранения своего места.

Именно поэтому господину Лукашенко лучше оставить свой пост именно сейчас, пока он не наделал непоправимых ошибок. Пусть останется сильным хотя бы в воспоминаниях современников и на страницах энциклопедий. Как бы это ни было трудно лично для него, необходимо понять, что все имеет начало и конец. Лучшие времена уже прошли, теперь нужно пить горькое лекарство. Конечно, ему придется выслушать много нелицеприятной и справедливой критики в свой адрес. Сила действия, как известно, равна силе противодействия. Все оскорбления, которые разлетались направо и налево из его стана в течение всех этих лет, вернутся к источнику с такой же силой и неотвратимостью. Кто-то и палку перегнет, как обычно. Но! Общество чудовищно устало от политика Лукашенко, потому что как государственный деятель он оказался разрушительным и бесплодным. Ему нужно уйти для блага страны. Беларуси жизненно необходимы созидательные перемены. Пусть они придут в результате справедливых, честных и потому спокойных демократических выборов, в которых победит его соперник. У нас много прекрасных и образованных людей, есть из кого выбирать. Пусть это будут выборы по тем правилам, по которым когда-то (очень давно) избирали первого президента Республики Беларусь. Этим он обезоружит своих соперников, изменит мнение о себе и сохранится как личность. Надо, надо уходить, ведь на дубинках долго не сидят.

**P.S.** А психологическую и юридическую защиту от чрезмерной активности вчерашних соратников и приспешников в этом случае гражданину Лукашенко обеспечат уцелевшие, несмотря ни на что, независимая пресса, правозащитные организации и демократическая оппозиция. ■

# Лукашенко держится на русской разведке

*Окончание, начало на стр.1*

Эти документы, по словам белорусского президента, оказывают ему неоценимую помощь, благодаря им А.Лукашенко удается «спокойно пережить» самые серьезные события...

Генерал Лебедев мучительно улыбался – мол, не стоит благодарностей, Александр Григорьевич. Помогаем как можем, вот кадры ваши разведческие переподготавливаем... За кадры



А.Лукашенко тоже отдельно поблагодарил, но при этом, кажется, так и не понял, в какое глупое положение поставил главу СВР своими неуместными признаниями.

Служба внешней разведки подчиняется напрямую президенту России. Ее руководитель является одним из немногих лиц в государстве, обладающим правом прямого доклада главе государства. По заведенной еще при Борисе Ельцине традиции раз в неделю (обычно по понедельникам) директор СВР делает президенту развернутый доклад по ситуации. При этом СВР законом «О внешней разведке» и положением о СВР (оно является секретным документом, в нем прописано, кому и какую именно информацию СВР можно передавать) запрещено давать какие-либо материалы не то что главам дружественного государства, но даже органам исполнительной власти России. Например, информация, поступающая по линии СВР в правительство, строго дозируется.

Со слов же А.Лукашенко следует, что он лично – буквально как президент России – регулярно получает оперативные и аналитические материалы от СВР, которые позволяют ему решать многие серьезные проблемы. Между тем разведка в интересах Беларуси не входит в сферу компетенции и задач СВР. По закону не входит. Например, в статье 5-й закона «О внешней разведке» сказано:

«Целями разведывательной деятельности являются:

1) обеспечение Президента Российской Федерации, Федерального Собрания и Правительства Российской Федерации разведывательной информацией, необходимой им для принятия решений в политической, экономической, оборонной, научно-технической и экологической областях;

2) обеспечение условий, способствующих успешной реализации политики Российской Федерации в сфере безопасности;

3) содействие экономическому развитию, научно-техническому прогрессу страны и военно-техническому обеспечению безопасности Российской Федерации. Разведывательная деятельность не может осуществляться для достижения антигуманных целей, а также для достижения целей, не предусмотренных настоящим Федеральным законом».

То есть генерал-лейтенант С.Лебедев либо сам нарушает закон, либо – если поставлять информацию А.Лукашенко его попросил президент В.Путин – его нарушает В.Путин. В СВР попытались опровергнуть это предположение. Руководитель пресс-бюро разведки Борис Лабусов заявил корреспонденту «Газеты.ru», что СВР взаимодействует исключительно с внешней разведкой Беларуси на основании заключенного еще в 1992 году соглашения. Мол, А.Лукашенко не имел в виду себя лично... Однако из сообщений информагентств недвусмысленно следует, что президент Беларуси именно лично и едва ли не прямиком из Ясенево (минуя свой КГБ) получает сводки СВР и именно ему лично они оказывают неоценимую помощь в преодолении разных кризисов. Но самое интересное даже не это.

Если исходить из того, что главной проблемой А.Лукашенко – причем уже не столько внутренней, сколько внешней, — является оппозиция, а также неудачные попытки ЦРУ сместить его, используя отработанный сценарий «волны народного гнева», то получается, что СВР работает против белорусской оппозиции. Причем очень активно, так сказать, на постоянной основе – ведь материалы поступают в Минск регулярно. Будь Александр Григорьевич посдержанней на язык, об этом никто никогда бы не узнал. Следующий же доклад СВР А.Лукашенко, судя по всему, теперь получит нескоро. ■

Газета.ru

# «Перамены» вулічных настрояў

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Даўно ўжо беларускія «сілавікі» не праводзілі такіх масавых затрыманняў. Зрэшты, выбары ў «парламент» ужо адбыліся, і таму ў міліцыі адпала цяжкая неабходнасць паводзіць сябе прыстойна.

Затрыманых звозілі ў раённыя ўпраўленні ўнутраных справаў. Усяго назбіралася 109 затрыманых. «Рэкардсменам» жа стаў Савецкі РАУС — 54 маладыя арыштанты.

Учора стала вядома, што з 109 затрыманых 26 правялі ноч у спецпрыёмнікуразмеркавальніку на вуліцы Акрэсціна ў чаканні суда. Непаўнагадовыя былі адпушчаныя праз дзве-тры гадзіны. Сярод затрыманых апынуўся адзін з лідэраў мінскіх «левакоў» Сяржук Шмялёў і пара журналістаў – Кірыла Пазьняк з НАШАЙ СВАБОДЫ і Вадзім Доўнар з «БДГ».

На дзіва, не быў затрыманы ніводзін з арганізатараў акцыі – ні Цімафей Дранчук, ні Павел Севярынец, ні Аляксей Чарняеў. Насуперак паведамленням розных крыніцаў, старшыня Маладога Фронту Павел Севярынец правёў ноч дома.

Дарэчы, напярэдадні прайшла хваля акцыяў «Пераменаў» у рэгіёнах. Праходзілі яны па-рознаму – ад пікетаў да дыскатэкаў пад гэтай назвай. Найбольш вызначылася Гродна, дзе пікет быў разагнаны праз пятнаццаць хвілінаў, а больш за дваццаць чалавек затрыманыя. У Барысаве разганяць несанкцыяваны пікет прыехалі ўзброеныя аўтаматамі міліцыянты. ■

# Каля Акадэміі навук шчыраваў АМАП...

Кірыла ПАЗЬНЯК

Абкружаны з усіх бакоў раён Акадэміі навук «зачышчалі» пад выцце сірэнаў вялікімі сіламі. Міліцыянтаў, АМАПаўцаў ды «праваахоўнікаў» у цывільным было ці не болей, чымсьці саміх дэманстрантаў. Моладзь запіхвалі ў падаганяны і расстаўленыя ўздоўж праспекта Францыска Скарыны «варанкі», легкавікі, аўтобусы і мікрааўтобусы. Калі спачатку затрымлівалі толькі тых, хто маршаваў у калоне, то потым пачалі хапаць усіх, хто трапляўся на вочы.

На міліцыянтаў не дзейнічалі нават журналісцкія пасведчанні. Нас з калегам з «Белорусской деловой газеты» Вадзімам Доўнарам было адпусцілі, але праз колькі секундаў перадумалі: «Пайшлі!» Адвезлі ў Маскоўскі РАУС. З аўтобуса да дзвярэй будынка праводзілі праз міліцыянцкія шэрагі з дубінкамі наперавес. Відаць, дзеля запалохвання, бо, што праўда, не білі.



У пастарунку канвеерам складалі пратаколы аб удзеле ў несанкцыяваным шэсці і аб парушэнні грамадскага парадку, здымалі на стужку («кіно»). На довады, што мы знаходзіліся ля Акадэміі навук на працы і што, затрымаўшы нас, міліцыянты парушылі Закон аб друку («журналіст мае права беспершкодна атрымліваць і распаўсюджваць любую інфармацыю, што не ёсць дзяржаўнай таямніцай»), ніхто не зважаў.

Нас як журналістаў адпусцілі раней за ўсіх. Астатніх трымалі далей, збівалі. Прычым шчыравалі АМАПаўцы, відаць, ажно занадта: калі мы выйшлі з пастарунку, да яго пад'ехала «хуткая дапамога». ■

# Харватыя за парламенцкую дэмакратыю

Харвацкі сабор (парламент) прыняў серыю паправак да канстытуцыі, якія змяншаюць кампетэнцыю прэзідэнта і ператвараюць гэтую краіну ў парламенцкую дэмакратыю. Згодна з выпраўленай канстытуцыяй, прэзідэнт больш не можа адхіляць ад пасады кіраўніка ўрада і міністраў, якія цяпер становяцца падсправаздачныя толькі парламенту.

За прэзідэнтам застаецца толькі права распускаць сабор у асобных выпадках па прапанове прэм'ер-міністра і яго кабінета і пасля кансультацыяў з прадстаўнікамі парламенцкіх партыяў. Прэзідэнт і прэм'ер будуць разам прызначаць кіраўніка спецслужбаў, папярэдне пракансультаваўшыся з парламенцкім камітэтам па нацыянальнай бяспецы. Па меркаванні харвацкага прэм'ера Івіцы Рачана, гэтыя змяненні паспрыяюць «замацаванню дэмакратычнай сістэмы». ■

# Ватыкан—Арменія

Сумесны дакумент аб намеры ў будучым аб'яднаць рыма-каталіцкую і армянскую цэрквы падпісалі 10 лістапада папа Іаан-Павел II і каталікос усіх армянаў Гарэгін II. Кіраўнікі абедзвюх цэркваў згадзіліся з неабходнасцю правесці аб'яднанне ў трэцім тысячагоддзі і звярнуліся да святароў і вернікаў з заклікам падтрымаць гэтую ініцыятыву. На экуменічнай цырымоніі, якая адбылася ў рамках візіту, у дар армянскай царквы была перададзеная часцінка мошчаў святога Рыгора Армянскага, заступніка Арменіі, рэшткі якога пакоіцца ў адной з цэркваў Неапаля. ■

# Миллионерам в США везде дорога



**Алена ЛЕВИНА**

**По данным американского журнала *Money*, который провел собственное исследование доходов кандидатов в президенты США, состояние кандидата республиканцев Джорджа Буша-младшего превышает $20 млн. Его соперник Альберт Гор почти в 20 раз беднее.**

Республиканский кандидат в президенты, в частности, владеет казначейскими облигациями правительства США на сумму около $6 млн., кроме того, $1,2 млн., вложенные в различные ценные бумаги, находятся в доверительном управлении одного из инвестиционных фондов.

Буш-младший владеет также акциями ряда крупных компаний, таких, как *Intel, IBM, Walt Disney, Pepsico, General Electric, Exxon*, а также является совладельцем трех бытовых химчисток в штате Северная Каролина. Несколько лет назад за $1,8 млн. он приобрел ранчо в штате Техас с участком земли в 633 га и искусственным озером для рыбалки, но его крупнейшим финансовым успехом стала продажа два года назад своей доли в бейсбольной команде «Техасские рейнджеры», принесшая ему $14,9 млн. В последней налоговой декларации Джорж Буш-младший указал размер своего состояния в разряде от $11.1 до $29,4 млн. Состояние кандидата от Демократической партии вице-президента США Альберта Гора намного скромнее и на сегодняшний день оценивается примерно в $1,5 млн. (В официальной декларации Гор указал разряд от $1,4 до $2,5 млн.) Гор, в частности, владеет фермой в штате Теннесси с участком в 35 га, оцениваемой в $445 тыс., а также расположенной рядом шахтой по добыче цинковой руды, которая оценивается в $250 тыс. Вицепрезиденту также принадлежит сдаваемый им внаем небольшой фермерский дом в Теннесси стоимостью в $66 тыс., кроме того, он вместе с женой владеет домом ее родителей в пригороде Вашингтона — еще $500 тыс.

Вышеуказанные данные не учитывают зарплату кандидатов по основному месту работы — у губернатора Техаса Буша она составляет $115,345 в год, у віцэ-президента США Гора — $175,400.

Кандидатуру Гора поддерживают несколько американских мультимиллиардеров, но в целом Уолл-стрит и большой бизнес на стороне Буша. Среди сторонников Гора — инвестор Уоррен Баффет, финансист Джордж Сорос, телевизионный медиа-магнат миллиардер Руперт Мердок, глава компьютерной корпорации *Apple* Стив Джобс. О поддержке кандидатуры Буша заявили глава корпорации *Dell* Майкл Делл, глава *Microsystems* Скотт Макнили. Все они люди небедные, как, впрочем, и сами кандидаты. ■

# В последний час

**Вениамин ГИНОДМАН**

**Израильский премьер-министр Эхуд Барак заявил, что его правительство готово признать независимость арабского государства Палестина в обмен на мирный договор, который нынешняя администрация Палестинской автономии должна будет подписать с Израилем. Это означает, что на Ближнем Востоке может начаться очередной период виртуальной дипломатической войны, чреватой усилением абсолютно реальных боевых действий.**

За те девять лет, что минули со времен Мадридской конференции, еврейское государство не просто продемонстрировало, но и многократно доказало стремление к миру. Оно пошло на принципиальные стратегические уступки палестинцам, ничего не получив взамен, кроме невыполнимых требований и усиления террора. Глава Палестинской автономии по сей день даже не выполнил обещания, данного на Южной лужайке Белого дома. Под самыми вздорными предлогами он не отменил те статьи «Национальной палестинской декларации» от 17 июля 1968 года, которые конечной целью деятельности ООП провозглашают физическое уничтожение «сионистской раковой опухоли на теле арабской Родины». «Исламский джихад», «Хамас» шейха Обейда, «Хезбалла» шейха Насраллы, ООП-ФАТХ Арафата предпочли просто не заметить отвода израильских войск из Вифлеема, Хеврона и южного Ливана. Лидер ООП, опираясь на легализованную 60-тысячную палестинскую армию, а также нелегальное, но подконтрольное ему подполье, упорно требует себе полцарства со столицей в Иерусалиме. Желает быть владычицей морскою, и чтобы золотая рыбка беспременно была у него на посылках.

Утопичность притязаний Арафата понятна любому здравомыслящему политику. Однако самопровозглашенный «президент» несуществующего государства «Палестина» может сохранять политическое влияние, командовать армией, повелевать стотысячными толпами камнеметателей, получать огромные суммы от палестинской диаспоры и богатых арабских режимов только при одном условии — искусно и искусственно поддерживая в регионе состояние войны. Жестокий парадокс заключается в том, что многие миллионы людей (в первую очередь палестинцев, существующих за гранью нищеты) стали пешками в игре, которая обеспечивает непомерные амбиции одного старого террориста, продающего собственный народ для насыщения своего безграничного властолюбия, сластолюбия и сребролюбия.

Эхуд Барак, генерал-лейтенант резерва, бывший начальник Генерального штаба Армии обороны Израиля, единственный в стране обладатель двух наград за высшую доблесть, командир самого элитного спецотряда рейнджеров «Саерет маткаль», создатель «мистаарвим» — эффективных спецподразделений по борьбе с интифадой, отлично осведомлен о том, что для Нобелевского лауреата Ясера Арафата понятие «мир» равнозначно понятию «политическое небытие». Потому он и пытается перебросить мяч на поле противника: пусть Арафат отвергнет мирные инициативы, и тогда Израиль сможет приступить к решительным действиям так, как он это умеет. Неспроста именно в тот же день, 9 ноября, штурмовой вертолет израильских ВВС точным ракетным залпом накрыл в деревне Бейт-Сахур машину с двумя офицерами ФАТХа, замеченными в организации беспорядков. Демонстрация грамотной работы разведки в сочетании с военной мощью по идее должна вернуть Арафата на стезю дипломатии. Однако надежд на это мало. Во-первых, первый среди равных палестинцев предпочитает видеть себя военным вождем, а не главой администрации, решающей прозаические проблемы мирного времени. Во-вторых, европейско-американские нормы на Святой земле не действуют и бумажные договоры там ничего не значат. Либо Барак пойдет на самые решительные меры, взяв себе за образец Моше Даяна, Ариэля Шарона, молодого Рабина и молодого себя, либо противостояние придется улаживать его преемнику. А то и преемникам. ■

**ISRAEL PALESTINIANS**



ARAFAT



BARAK

# Гибель «Великой Вселенной»

**Наталья ИЩЕНКО**

**В отчаянной попытке возвратить хотя бы часть из почти 80 миллиардов долларов долгов банки-кредиторы с февраля нынешнего года пытались продать более 22 филиалов, производящих автомобили, суда, текстиль и пестициды, компании *Daewoo Motors* — второго по величине автомобилестроительного предприятия Южной Кореи (17 фабрик *Daewoo Motors* выпустили в 1999 году 758.500 легковых и грузовых автомобилей).**



Комиссия по реструктуризации долгов компании еще 15 февраля разослала соответствующие предложения ведущим мировым производителям автомобилей. Однако автомобилестроительного гиганта спасти, читай: продать, не удалось. Фирма не смогла выплатить задолженность, составляющую на тот момент более $70 млн. и превышающую собственные активы почти на $22 млрд. В начале текущего месяца кредиторы *Daewoo Motors Co.* заявили о банкротстве компании.

## Как обанкротилась *Daewoo Motors*

Это случилось после того, как профсоюзы отвергли план спасения фирмы, предусматривающий сокращение рабочих мест. Профсоюзы провели собственное собрание, на котором пытались выработать дальнейший курс действий, однако и на этом собрании не удалось достичь согласия по вопросу реструктуризации компании, что являлось первоначальным условием отказа от банкротства компании, так как в основе плана реструктуризации было временное увольнение 18% членов профсоюза.

Теперь «Великую Вселенную» (так в переводе с корейского звучит название корпорации) ждет разбирательство по долгам и назначение новой администрации. Вместе с президентом и основателем *Daewoo Group* Ким У Чунгом подали в отставку двенадцать руководителей компаний, входящих в корпорацию. Кроме руководства *Daewoo Motors*, это управляющие *DaewooTelecom, Daewoo Heavy Industris, Daewoo Electornics*. Экс-руководители объяснили свое решение необходимостью ускорения процесса реструктуризации и желанием взять на себя всю ответственность за кризис компании.

В случае неуспеха начавшегося процесса реструктуризации *Daewoo Motors* может возникнуть угроза повторения спустя два с лишним года финансового кризиса в регионе и во всем мире. Кроме того, банкротство такой крупной компании повлечет за собой не только чисто экономические последствия, так как без работы могут остаться сотни тысяч рабочих. Уже сообщалось о массовых беспорядках в Южной Корее, которые спровоцировало сообщение о банкротстве *Daewoo Motors*. Кроме того, крушение «Великой Вселенной» не пройдет бесследно и для других стран.

## Почему *Daewoo Motors* обанкротилась

Ударом, окончательно свалившим империю *Daewoo*, стал финансовый кризис в Юго-Восточной Азии 98-го года. А одной из ведущих причин фиаско *Daewoo Motors* — слишком оптимистичное отношение компании к странам с переходной экономикой и переоценка темпов роста спроса на их рынках: значительные инвестиции в Узбекистан, Польшу, Индию, Украину не принесли корпорации планировавшейся отдачи.

Кроме того, есть основания полагать, что именно неудачные инвестиционные проекты не позволили корпорации найти спасительного покупателя.

Как сообщалось, в конце июня 2000-го года корпорация *Ford* победила в тендере на приобретение контрольного пакета акций *Daewoo Motors*. Однако представители *Ford* не стали подписывать ни одного документа, который бы подтвердил их контроль над *Daewoo Motors*, отложив это до конца августа. Как предполагали наблюдатели, на принятие окончательного решения должны были повлиять выводы аудиторской фирмы *PricewaterhouseCoopers* о состоянии дел на АвтоЗАЗ-*Daewoo* — проверка запорожского предприятия была предусмотрена условиями тендера.

Через месяц *PricewaterhouseCoopers* завершила проверку СП АвтоЗАЗ-*Daewoo*, но заинтересованность *Ford* в украинско-корейском предприятии оказалась равна нулю.

Позже выяснилось, что на таком же уровне пребывает заинтересованность *Ford* в покупке акций *Daewoo Motors*, по крайней мере — на условиях корейцев. Сейчас «обломки» «Великой Вселенной» могут заинтересовать и американцев, так как будут продаваться уже «по дешевке». ■



# Виртуальное воображение

**Умберто ЭКО,**
**итальянский писатель, автор знаменитых романов «Имя Розы», «Маятник Фуко», лингвист-теоретик**

**Будут ли книги трансформированы с помощью компьютеров и интернета в безграничные «гипертекстуальные структуры», в которых читатель является также и автором?**



Сегодня существует два вида книг: одни, чтобы читать, другие, чтобы получать консультацию. С книгами-для-чтения вы начинаете на странице 1, на которой, скажем, автор описывает произошедшее преступление. Вы читаете до самого конца и узнаете, кто же его совершил. Конец книги — конец опыта прочтения. Тоже самое происходит даже тогда, когда вы читаете философию, например Гуссерля.

Энциклопедии, конечно же, не предназначены для чтения «от корки до корки». Если я захочу узнать, возможна ли была встреча между Наполеоном и Кантом, я возьму тома на буквы К и Н и узнаю, что Наполеон родился в 1769 и умер в 1821, а Кант родился в 1724 и умер в 1804. То есть их встреча – теоретически возможна. Чтобы знать наверняка, я «проконсультируюсь» с биографией Канта. Биография Наполеона, который встречался со многими людьми, может проигнорировать встречу с Кантом, а вот биография Канта – нет.

Компьютеры начинают изменять процесс чтения. Например, с помощью гипертекста я могу запросить все варианты, в которых имя Наполеона связано с именем Канта. Я могу сделать всю работу за несколько секунд. Компьютеры вполне заменят вышедшие из употребления оплатные энциклопедии. Но хотя компьютеры и распространяют новую форму грамотности, они не способны удовлетворить все интеллектуальные потребности, которые они стимулируют.

Два изобретения, стоящие на грани реализации, могут помочь компьютеру удовлетворить эти потребности. Первое – копировальная машина, через которую вы можете отсканировать каталоги библиотек и книги издательских домов. Вы выбираете необходимую вам книгу, нажимаете кнопку и машина печатает и переплетает вашу копию. Это изменит весь издательский бизнес, это, возможно, уничтожит книжные магазины, но не книги. Книги будут сделаны в соответствии с желанием покупателя, подобно тому как это происходило со старыми манускриптами.

Второе изобретение – *е-книга*: вставив микрокассету в корешок книги или подсоединив ее к интернету, вы получаете свою копию. Но эта книга так же отличается от обычной, как последнее издание Шекспира издательства Пингвин от фолианта 1623 года. Люди, которые говорят, что никогда не читают печатных книг, теперь читают, скажем, Кафку в е-формате. На бумаге или на электронной странице Кафка остается одним и тем же для читателей, если не говорить о точке зрения окулистов.

Книги выживут благодаря своей утилитарной ценности, но творческий процесс, в котором они рождаются, возможно – умрет. Чтобы понять почему, нам нужно провести различие между системами и текстом. Система является сочетанием всех возможностей, исходящих из определенного естественного языка. Конечный набор грамматических правил позволяет вам произвести бесконечное число предложений, причем каждый лингвистический компонент может быть интерпретирован на фоне других лингвистических компонентов: слово — через определение, событие — через пример, и т. д.

Текст, с другой стороны, уменьшает количество бесконечных возможностей системы до формы закрытой вселенной. Возьмем сказку о Красной Шапочке. Текст начинается с определенного набора персонажей и ситуаций (маленькая девочка, мать, бабушка, волк, лес) и посредством нескольких шагов достигает своей развязки. Вы можете читать эту сказку как аллегорию и приписывать различную мораль событиям и персонажам сказки, но вы не можете превратить Красную Шапочку в Золушку.

Но многие интернетовские программы предполагают, что история обогащается последовательными контрибуциями. Снова возьмем Красную Шапочку. Первый автор предлагает начальную ситуацию (девочка входит в лес), и последующие контрибьюторы развивают историю дальше – девочка не встречается с волком, она встречается с Пиноккио. Оба попадают в заколдованный замок. Они могут сразиться с волшебным крокодилом. И так далее. Понятие авторства подвергается сомнению.

Это иногда происходило в прошлом, и без затрагивания авторства. В *Commedia dell'arte* каждое представление было отличным от предыдущих. Мы не можем определить отдельную работу, принадлежащую одному автору.

Но существует разница между неограниченным, бесконечным текстом и текстом, который может быть интерпретирован бесконечными способами, но который физически является ограниченным. Возьмем «Войну и мир» Толстого: вам бы хотелось, чтобы Наташа отвергла Курагина, вы хотите, чтобы князь Андрей выжил и чтобы он и Наташа были вместе. Переделайте «Войну и мир» в гипертекст и вы сможете переписать историю: Пьер убьет Наполеона или Наполеон поразит генерала Кутузова. Какая свобода! Каждый может стать Толстым!

В *Les Miserables* Виктор Гюго дает нам прекрасное описание Ватерлоо. Гюго не только знает, что произошло, но и то, что могло произойти, а что – нет. С программой гипертекста вы могли бы переписать Ватерлоо так, чтобы Наполеон победил, но трагическая красота Ватерлоо, описанного Гюго, в том, что все события происходят независимо от воли читателя. Очарование трагической литературе придает то, что мы чувствуем, что герои могли бы избежать своей судьбы, но не не сделали этого из-за своей слабости, гордости или слепоты.

Кроме того, Гюго говорит нам: «Такое падение, шокировавшее всю историю – неужели у него нет причины? Нет... Кто-то, кому никто не может возразить, позаботился об этом событии. Здесь прошел Бог». Вот что говорит нам каждая великая книга – здесь прошел Бог. Существуют книги, которые мы не можем переписать, потому что их функция состоит в том, чтобы научить нас Необходимости, и только если они воспринимаются с этой точки зрения, они могут подарить нам эту мудрость. ■

© Project Syndicate

АКЦЫІ

# Вярнуўся, каб парадаваць талентам

**Таццяна АНТОНАВА-МЕЛЬЯНОВІЧ**

Напрыканцы стагоддзя беларускае грамадства атрымала падарунак – у CD-серыі Беларускага музычнага архіва выйшаў збор песень славутага Міхася Забэйды-Суміцкага. Такім чынам было адзначана і 100-годдзе з дня нараджэння праслаўленага тэнара, нашага суайчынніка. Кампакт-дыск, пра які ідзе гаворка, з'явіўся дзякуючы намаганням Беларускай асацыяцыі журналістаў, Радыё «Свабода», Радыё «*Polonia*», а таксама грамадска-культурных арганізацыяў і асобных людзей. Ушанаваны ва ўсім свеце спявак, які пранёс праз жыццё пяшчотную любоў да Беларусі, услаўляў яе ў сваёй творчасці, «вывеў беларускую народную песню ў шырокі культурны свет», вяртаецца на радзіму.

З ідэалагічных прычынаў імя Забэйды-Суміцкага доўгія гады замоўчвалася. Непажаданы для афіцыйнай Беларусі ён, напэўна, і цяпер. Калі б гэта было інакш, то дзяржава даўно знайшла б грошы, каб выдаць дыск з песнямі ў яго цудоўным выкананні. Але ўсё беларускае, відавочна, не ўпісваецца ў кантэкст абранай палітыкі і цяперашняга жыцця ў нашай краіне.

На працягу 90-х гадоў я пабывала ў многіх беларускіх асяродках у Еўропе і за акіянам. У Нямеччыне, Францыі, Італіі, Аўстраліі, Вялікабрытаніі ёсць кружэлкі з запісамі Забэйды, у Канадзе і Злучаных Штатах фактычна ў кожнай беларускай сям'і – таксама, не гаворачы ўжо пра Польшчу і Чэхію, дзе ў другой палове 30-40-х гадах ён з трыумфам выступаў з канцэртамі. Спяваў сусветную класіку, творы беларускіх кампазітараў, беларускі і ўкраінскі фальклор. Забэйда-Суміцкі спяваў на 18 мовах. Публіка на яго канцэртах рыдала, настолькі душэўным і пранікнёным было яго выкананне. Ён сам іграў на ўсіх інструментах, быў адмысловым кампазітарам. Але савецкую ўладу ён не ўспрымаў. І яна гэта не даравала.

Пра перажытае ў час бежанства падчас першай сусветнай вайны, жыццё ў Кітаі, дзе вучыўся ў Харбінскім універсітэце, а пасля спяваў у Харбінскім оперным тэатры, у славутай «*La Skala*», на іншых праслаўленых оперных сцэнах свету наш суайчыннік расказаў у сваіх аўтабіяграфічных нататках, якія былі надрукаваныя ў Беларусі ўжо пасля яго смерці, у 1990-м годзе.

У збор рарытэтаў Міхася Забэйды-Суміцкага укладальнікі ўключылі трыццаць адну беларускую песню. Цяпер мы можам слухаць нашага земляка, якому акампануюць Мікола Кулікович-Шчаглоў, Альфрэд Голечак, Варшаўскі аркестр мандаліністаў пад кіраўніцтвам Эдварда Цюкшы, Лонданскі аркестр «Odeon» пад кіраўніцтвам Дж.Герта. Гэта песні на словы Янкі Купалы, Адама Русака, Паўлюка Труса, Міхася Машары, фальклорныя песні ў аранжыроўках А.Грачанінава, А.Туранкова, С.Казура, А.Анцава, К.Галкоўскага.

Назву кампакт-дыску – «Ластаўкі ў стрэсе», як пішуць укладальнікі, падказаў вобраз адной з песень гэтага збору: мы, беларусы, павінны нарэшце сабрацца і асэнсаваць той вялікі духоўны скарб, які дазволілі сабе парастрэсці па ўсім свеце.




# На «Лістападзе» пакажуць «Момант ісціны»

**Алена ЛАБАНАВА**

**З 22 па 29 лістапада ў Мінску сёмы раз пройдзе кінафестываль краінаў СНД і Балтыі «Лістапад-2000».**

Адкрыць фестываль планавалася спачатку ў вялікай зале Палаца Рэспублікі, але мантажныя работы сцэны, якія цяпер там праводзяцца, сапсавалі планы арганізатараў. Дзень прастою будынкоў каштуе 1,5 тысячы долараў, якіх, вядома, няма. Таму адкрыццё традыцыйна адбудзецца ў кінатэатры «Кастрычнік» 22 лістапада а 17-й гадзіне доўгачаканай прэм'ерай «Момант ісціны» па рамане У.Багамолава «У жніўні 44-га...», зняты рэжысёрам М.Пташуком. Гэты суперпраект «Беларусьфільма» ідэалагічнага зместу апошнія 2,5 гады «з'ядаў» большую частку грошай кінастудыі. Акрамя яго, Беларусь прадставіць на фестывалі «пракатную» камедыю «Армія выратавання», знятую на прыватнай студыі «Відэафакт», знятых сумесна з расійцамі «Алхімікаў» (пакажуць, праўда, па-за конкурсам) і дзіцячы фільм «Зорка Венера», што будзе дэманстравацца на «Лістападзіку». Гэта фестываль дзіцячага кіно, што пройдзе ў кінатэатры «Піянер» у межах вялікага «Лістапада».

З нашымі стужкамі ў гэтым годзе будуць змагацца амаль два дзесяткі фільмаў з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Грузіі, Украіны, Таджыкістана і Расіі. Сярод іх фільмы грузінскіх кінематаграфістаў «Прыкаваныя рыцары» і «Тут світанак», таджыкскі «Зорачка мая ненаглядная», літоўцы прывязуць удыпламаваны на Берлінскім кінафестывалі фільм «Жыццё Эльзы», эстонцы — «Месяцовы тата», украінцы — «Усім прывітанне». А расейцы проста заваляць нас сваімі фільмамі. Гэта і «Зайздрасць багоў» з В.Алентавай у галоўнай ролі, «Дзённік яго жонкі» пра Буніна, «Сьвяты і грэшнік» з удзелам У.Гасцюхіна, які, дарэчы, агучваў «Нянавісць: дзеці хлусні», «Рускі бунт» з удзелам аднаго з нашых акцёраў тэатра імя Горкага.

Кажучы пра ўзровень гэтых карцінаў, прэзідэнт фестывалю Расціслаў Янкоўскі ўзгадаў пра папулярную расійскую стужку «Брат-2», якую ён не ўзяў на фестываль таму, што «трэба нейкі густ і ўзровень фестывалю вытрымліваць, каб дзяшоўкі не было». А намеснік міністра культуры Юрый Цвяткоў папярэдзіў, што «алігафрэны запаланяюць значную частку расійскага экрана, і такія стужкі ёсць у расійскай праграме фестывалю».

Фільмы будуць ацэньваць тры журы: кінематаграфістаў, кінапрэсы і гледачоў. Усе фільмы пройдуць у межах конкурснага паказу ў «Кастрычніку», а потым іх пакажуць у іншых сталічных кінатэатрах. ■

КНІГАРНЯ

# Тайна «Белай Русі»

Зміцер БУЛАЙ

**Зусім нядаўна ўбачыла свет кніга Алеся Белага «Хроніка Белай Русі», у якой аўтар спрабуе прыпадняць заслону тайны над старажытнай гісторыяй назвы нашай краіны.**



Алесь Белы налічыў ажно 12 асноўных версіяў паходжання назвы «Белая Русь». Дзве з іх з 1960-х гадоў маюць у нас як бы афіцыйны статус. У аснову першай версіі пакладзены белы колер адзення і антрапалагічны тып нашых продкаў. Згодна з другой – Белай, г.зн. вольнай, Руссю спачатку называліся землі ўсходняй Беларусі, якія ў XIII ст. не залежалі ад татараў.

Насуперак ім Алесь Белы сцвярджае, што «гісторыя назвы Белая Русь не з'яўляецца чыста беларускім (у сучасным разуменні) феноменам». Ды і ўвогуле на самым пачатку яна не мела ніякага дачынення да сучаснай Беларусі. Абапіраючыся на заходнееўрапейскія пісьмовыя крыніцы і картаграфію, аўтар распрацаваў сваю «Хроніку» паходжання і перанясення на нашыя землі гэтай назвы.

Згодна з ёю, пачаткова спалучэнне Белая Русь магло ўзнікнуць у асяродку варагаў, пераважна скандынаўскага паходжання, у дачыненні да земляў вакол Ладажскага і Белага возера. У гэтым раёне пражывала ў раннім сярэднявеччы фінскае племя віцаў ці вепсаў («весь» старажытнарускіх летапісаў), чыя назва ў носьбітаў германскіх моваў асацыявалася са словам «белы». Таму пасля падпарадкавання іх варагамі-русамі і наўгародцамі гэты рэгіён стаў звацца Белай Руссю (у вузкім сэнсе). У сэнсе шырокім так называлася ўся Наўгародская Зямля. Вось такім чынам на заходнееўрапейскіх мапах і з'явілася *Russia Alba* – пераклад нямецкай формы *Weizzen-Reuzzen* на латынь.

У XV ст. замежнымі крыніцамі зафіксаваны перанос гэтай назвы на Масковію, што адбылося, на думку аўтара, пасля падпарадкавання ў 1470-х гадах Наўгародскай рэспублікі Маскоўскаму княству. Але ні Іван III, ні яго сын Васілій III афіцыйна не прымалі тытула «вялікага князя Белай Русі», ды і сама назва, мусіць, не карысталася ў Маскве вялікай папулярнасцю. Хаця крыніцы і адзначаюць ужыванне маскоўскімі дваровымі панегірыкамі эпітэта «белы» ў значэнні «вялікі», «высакародны», але толькі адносна асобы самога вялікага князя, а не ўсёй дзяржавы.

Чарговы перанос назвы адбыўся толькі ў другой палове XVI ст., калі войскі Івана IV здранталі ўсходнія землі ВКЛ і захапілі Полацк. Па версіі Алеся Белага, заходнееўрапейцы проста змяшалі звесткі пра заваяванне Ноўгарада Іванам III і захоп Полацка Іванам IV прыкладна праз стагоддзе, і нашы ўсходнія землі на іхных мапах сталі Белай Руссю, што канчаткова замацавалася, праўда, толькі ў канцы XVII – пачатку XVIII стст., калі «беларусцамі» сталі ўсведамляць сябе і іх насельнікі.

Увогуле назву *Russia Alba* аўтар лічыць «унікальным помнікам еўрапейскай (можна ўдакладніць: лацінскай) культуры», бо яе пачатак губляецца ў памылковых уяўленнях раннесярэднявечных і нават антычных схаластаў пра нейкую таямнічую краіну Албанію, і са штостагоддзевымі зменамі ў лакалізацыі Белая Русь дажывае да нашых дзён у яе сённяшнім варыянце.

У цэлым аргументы, прыведзеныя ў «Хроніцы» Алеся Белага, выглядаюць даволі пераканаўча. Адзінае, у чым ёй моцна бракуе, дык гэта ў адсутнасці грунтоўнага даследавання гісторыі паходжання самой Русі, што дазволіла б лепей разабрацца ў «трыкалоры» (Белай, Чорнай і Чырвонай Русі), а праца прыняла б нейкі завершаны выгляд. ■

# Ночные дела в минской подземке

Вероника ЧЕРКАСОВА

**Наверное, нет минчанина, который бы хоть раз в жизни не был в метро. Но – днем. О том, что происходит там ночью, рассказывает корреспондент НАШАЙ СВАБОДЫ, который провел в подземке ночные часы.**

В пол-первого ночи полупустые поезда ходят с интервалом в 10 минут. Днем в часы пик интервалы движения на первой линии составляют 2,5 минуты, вечером – 3 минуты. Недавно метрополитен закупил два новых поезда, так что с 13 ноября интервал движения в час пик сократился до 2 минут. При таком интервале на линии одновременно должны работать 24 состава. «Если удастся закупить еще три состава, можно будет сократить интервалы движения и на второй линии»,– говорит начальник службы движения минского метрополитена Виктор Кончак.

Воспользовавшись случаем, выясняю интриговавший меня вопрос – зачем в метро зеркала? Оказывается, не для растрепанных пассажирок, а для машинистов, чтобы видеть двери всех вагонов.

Ближе к часу пассажиров становится совсем мало даже на самой многолюдной станции метро – Октябрьской, где ежесуточно бывает от 50 до 60 тысяч человек. Двое милиционеров под руки уводят к выходу не очень трезвого гражданина. Милиция работает на перроне до последней минуты. Здесь она – подразделение метрополитена. В метро с пьяными строго, поскольку здесь выпивший гражданин – источник повышенной опасности.

Почти все метрополитены в СНГ работают до 24 часов. Минск в этом отношении – приятное исключение, хотя с 24.00 до 01.00 метро работает явно в убыток. Минское метро сегодня окупается на 30-40%. Себестоимость одной поездки сейчас составляет 114 рублей. В ближайшее время цены на проезд поднимутся, и одна поездка будет обходиться в 60 рублей.

Время прибытия на конечную станцию поездов первой линии – 01.16, второй – 01.20. Затем машинисты загоняют поезда в тупик, и в минской подземке начинается ночной рабочий день: ремонт путей и оборудования, замена перегоревших лампочек, профилактика.

Дежурный по радио объявляет, что напряжение с контактного рельса снято. Теперь, с 01.28 до 05.20 утра можно работать. Первыми на перрон выходят уборщицы с ведрами и швабрами и трут каменный пол, заменяя уборочные машины.

С края перрона видно, что на путях валяется мусор. «Бывает, пассажиры роняют на рельсы свои вещи, – говорит Виктор Эдуардович. – Чаще всего почему-то зонтики, второе место занимают перчатки. В случае, если упала мелочь, которую несложно достать, ее выуживают с путей специальными клещами, а если предмет закатился подальше, зацепился или оказался вне зоны досягаемости клещей, его достанут ночью, когда снято напряжение, а пассажира попросят прийти за ним на следующий день».

По платформе милиционер проносит мешки. В них – жетоны, которые достают из автоматов и считают после закрытия метро. Это производится раз в сутки, и количество жетонов показывает, сколько пассажиров перевез метрополитен за день. Сегодня эта цифра составляет около 720 тысяч, что уже превышает проектную мощность.

В это же время в туннель запускают рабочих. Просто так в туннель не попадешь. Надо предварительно записаться в журнал, надеть красную безрукавку. Некоторые сотрудники метро работают посменно, а есть такие, кто годами старается попасть только в ночь. Молодежь умудряется днем еще подрабатывать.

После команды об отключении напряжения выключаются интервальные часы, останавливается эскалатор, в тоннеле зажигается яркое освещение, а на платформе свет постепенно гаснет. Мы одеваем оранжевые жилеты, записываемся в журнал и отправляемся в тоннель. С перрона туда ведет дверь, закрытая на кодовый замок, на двери табличка: «Стой! Контактный рельс под напряжением!» Такие предупреждения здесь на каждом шагу. Кроме кодовых замков и предупреждений, существует еще и УКПТ – устройство контроля прохода в тоннель. Оно пропускает поезда, но присутствие человека будет тотчас зафиксировано.

Из глубин тоннеля появляется хозяйственный поезд. Это похожая на баржу дрезина, на которой перевозят ремонтное оборудование.

В тоннеле на какой-то момент я становлюсь на контактный рельс и непроизвольно стараюсь поскорее с него спрыгнуть. Стоять на нем очень неуютно. Идти по тоннелю, где днем через каждые три минуты проносятся поезда, как-то не по себе. Хотя знаешь, что напряжение отключено, а по путям медленно ползает небольшая дрезина, кажется, что из-за поворота вылетит поезд. Возле самой станции Октябрьская пути раздваиваются, одна ветка ведет на вторую линию. Идем по ней и видим гигантскую дверь, которая в случае атомной войны, газовой атаки и т. п. герметически блокирует весь тоннель. В тоннеле все то же, что и на железной дороге, – стрелки, светофоры, рельсы. По стенам проложен водопровод. В самом буквальном смысле – на всякий пожарный случай. С этой же целью на станции стоят огромные баллоны-огнетушители на колесах. Пока нужды в них, к счастью, не возникало.

В 4.55 подается сигнал, что работа в тоннеле должна заканчиваться, в 5.05 подается первый сигнал, а в 05.20 пути должны быть освобождены, поскольку будет подано напряжение на контактный рельс. В 5.30 станция открывается, в 5.35 отправляются первые поезда. Они едут по освещенным тоннелям, медленнее, чем обычно, обязательно в сопровождении дорожного мастера, который осматривает пути.

Вопреки распространенному заблуждению, по рельсам метро ток не проходит. Под напряжением находится лишь контактный рельс, который с платформы почти не заметен. Он покрыт сверху защитным коробом. Если человек невзначай коснется контактного рельса, напряжение на котором 825 Вт, его уже не спасти. Я попробовала разглядеть контактный рельс, заглянув за край платформы. Неожиданно ударила в лицо сильная волна ветра. Скорость движения поезда на перегоне – 80 км/час, он входит в тоннель, как поршень в сосуд, и непрерывные сквозняки в метро вызваны выдавленным с огромной силой воздухом.

На станциях уже светло. В подземке всегда горит искусственный свет, а время суток можно определить лишь по количеству людей на перроне. ■



● Переход станции метро «Плошча Незалежнасці»

ІНТЭРФАКС

# Еўрапейцы мелі 10 «праайцоў»

Больш 95% «еўрапейскіх мужчынаў паходзяць ад 10 «праайцоў», сцвярджаюць вучоныя. Па даных даследавання, двое з дзесяці «айцоў-заснавальнікаў» прыбылі ў Еўропу з Бліжняга Усходу да скачэння апошняга лядовага перыяду (ад 2 мільёнаў да 15 тысяч гадоў таму). Астатнія маглі прыбыць на тэрыторыю сучаснай Еўропы ад 9 да 5 тысяч гадоў таму. Гэтыя дадзеныя былі атрыманыя ў выніку вывучэння варыянтаў храмасомы Y, якая перадаецца ад бацькі да сына, міжнароднай групай вучоных, у якую ўваходзілі прадстаўнікі васьмі еўрапейскіх краінаў і ЗША. Вынікі даследавання пацвярджаюць раней зробленыя здагадкі аб тым, што сучаснае насельніцтва Еўропы ўзнікла ад спалучэння мясцовых жыхароў перыяду палеаліту і іміграваўшых з Бліжняга Усходу земляробаў перыяду неаліту. Аналагічныя даследаванні міхандрыяльнай ДНК, якая перадаецца ад маці да дзіцяці, паказалі, што сучасныя еўрапейскія жанчыны ўзніклі ад сямі «прамацяраў», паведаміла тэлерадыёкарпарацыя Бі-Бі-Сі. ■

СПОРТ

# Баранаў стаў ахвярай псіхалагічнай атакі?

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Інфармацыя, якая была надрукаваная альбо агучаная напярэдадні мінулага тыдня ў шмат якіх СМІ (у тым ліку і ў НАШАЙ СВАБОДЗЕ) аб тым, што паўабаронца маскоўскага «Спартака», гулец зборнай Беларусі Васіль Баранаў быў злоўлены на ўжыванні забароненых фармацэўтычных прэпаратаў, насамрэч апынулася выдатна закінутай праз інтэрнет правакацыяй. Так, ва ўсякім разе, заявілі прадстаўнікі клуба «Спартак» і сам Васіль Баранаў. Мэта яе, на думку кіраўнікоў клуба, – псіхалагічны ўціск на клуб і на Васіля Баранава асабіста, бо, маўляў, не ўсім спадабалася, што далёка не самы забяспечаны ў Еўропе футбольны клуб трапіў у другую частку розыгрышу Лігі чэмпіёнаў. Таму і з'явілася інфармацыя аб магчымай дыскваліфікацыі «Спартака».

Але ў мінулую пятніцу маскоўскі клуб паспяхова «аджэрабіўся» ў швейцарскай Лазане і ўжо праз тыдзень працягне гуляць у найбуйнейшым клубным турніры Еўропы і свету.

У УЕФА ўвогуле адмовіліся даваць інфармацыю адносна псеўдадопінгавага скандалу, абгрунтаваўшы гэта тым, што нават калі б ігрок і папаўся на допінгу, то да правядзення другой экспертызы ніякай інфармацыі агучана ўсё роўна не было б.

Цяпер Баранаў зможа дапамагчы нацыянальнай камандзе Беларусі па футболе ў веснавых матчах да чэмпіянату свету 2002 года супраць зборных Украіны і Нарвегіі, якія маюць адбыцца 24 і 28 сакавіка адпаведна. ■



Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ 856 Нумар падпісаны ў друк 30/10/2000 (18.00) Наклад – 8.940